


# Ніва



ГОД I № 14 БЕЛАСТОК, 3 ЧЭРВЕНЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.


ПІМЕН ПАНЧАНКА

## ДЗІВАК

Працуе ў нас майстар, ну проста дзівак,
Не можа хлапец ажаніцца ніяк:
І Зоя —
Не тое,
І Насця —
Не шчасце,
З дзяўчат не жадае нікога украсці.
Сягоння — яму намякаем мы — танцы,
А майстар спяшыць як хутчэй развітацца.
Мы робім нядзельную вылазку ў лес,
Ды іншы у хлопца зусім інтарэс...
Ездзіць штогод ён то ў Ялту, то ў Сочы,
Там ён шукае дзявочыя вочы.
Потым пяе нам пра горы і мора,
Толькі пра справы свае не гавора.
Мы распыталі ў знаёмых таварышаў,
З кім пад сонцам гарачым ты парышся...
Ходзіш, блукаеш поўднёвымі паркамі,
Часта знаёмішся з вуснамі яркімі.
П'еш, пэўна, з імі, цалуешся, можа?
Пі сабе...
Нас гэта мала трывожыць...
Мы рыхтаваліся ў клубе да свята,
Майстар зайшоў,
Паглядзеў вінавата
І ні то весела, і ні то сумна
Вымавіў:
«Вось вы якія красуні!»
Быў ён узрушаны — гэта я бачыла
І, як магла, ўсё яму растлумачыла,
Што ў Насці
Ужо шчасце,
А ў Зоі
Ужо двое...
Што нам рабіць, шалапутны з табою?
Будзеш век ездзіць — саб'ешся, сап'ешся...
Што ты глядзіш так?
Чаго ты смяешся?



*Лебедзі ў беластоцкім парку.* *Фота — Леў*

## РАНІЦА ХВЕДАРА

Памыўшыся ў прыемнай, асвяжаючай, цёплай вадзе, Хведар паволі пераапрануўся ў чыстае адзенне, на ходу зашпіліў яшчэ гузікі вопраткі, паправіў шапку на галаве, хвіліну прыпыніўся ля выхаду з шахцёрскай лазні, потым хуткімі крокамі накіраваўся ў каравульную, зняў з дошкі прысутнасці свой нумарок і спешна выйшаў на вуліцу.

Была ясная, ціхая нядзельняя раніца. Вуліца танула ў асляпляючых праменнях сонца. У нос біла ап'яняюча свежае, чыстае, халаднавае паветра. Парослыя лесам навакольныя горы пакрывала ледзь прыкметная сінява імглы.

Ля прыпынку ўжо стаяла колькі чалавек. Неўзабаве падыйшоў трамвай.

На ўсходах гасцініцы Хведар успомніў, што сёння павінен атрымаць нумар даўно выпісанай і з нецярплівасцю чаканай, беларускай газеты „Нівы". Можным турзком адчыніў высокія, старыя дзверы і кінуўся да акенца швейцарскай. Нарэшце...

На стале, за шыбінай акенца выразна бялецела, незнаёмая яшчэ, але адчувальна блізкая сэрцу аркуша газеты.

Паволі ідучы па ўсходах гісцініцы ў свой пакойчык ён хвалюючыся перагортваў старонкі „Нівы. Зайшоўшы ў пакой шпарка рассеўся за сталом і пачаў чытаць загалоўкі.

Хведару не хацелася ўжо спаць. Ён не чуў стомленасці пасля начной працы ў шахце. Ім авалодала нейкая дзіўная, перапаўняючая сэрца радасць. „Нарэшце нейкі там Хведар Рамшэвіч, загублены сярод Ніжне-Сілезскіх шумлівых гарадоў, каля падножжа вялікасных Судэцкіх гор, чытае сваю родную газету". — раздумліваў ён.

Яму раптам захацелася з кім небудзь падзяліцца радасцю. Але з кім? І тут ён успомніў, што ў Вроцлаве жыве яго аднакраінец, Пятро Рачульскі — студэнт політэхнікі.

Хведар палахліва зірнуў на гадзіннік... „Так, паспею яшчэ на цягнік"... — прамовіў устаючы з-за стала і вясёла расцягваючы словы.

* * *

Пятро ўжо збіраўся ісці ў горад калі ў дзверы яго пакоя нехта нецярпліва пастукаўся.

— Уваходзьце — крыкнуў Пятро. Дзверы хутка расчыніліся і ў пакой стралою ўляцеў яго сябра Хведар. Нават не прывітаўшыся ён з таемнай усмешкай на вуснах, з адной рукой закладзенай за спіну, стаў перад сваім даўнім сябром.

— Што з табою? — узбуджана спытаў сябра, Пятро.

— А вось што — і Хведар урачыста абмінаючы Пятра, як поп райскія вароты, паклаў нейкую газету на стол. Пятро глянуў, але не зразумеў у чым справа.

— І ты касалапае стварэнне гэтага грэшнага свету не дадумліваешся яшчэ, што гэта? — дабрадушна аблаяў свайго сябра Хведар.

Пятро кінуўся да стала, аберуч схапіў газету. — „Ніва" — смяючыся ад радасці чытаў Пятро беларускія літары.

Потым яны, адзін другому вырываючы з рук газету, пачалі досыць няскладна, чытаць першае лепшае, што кідалася ім у вочы. У канцы канцоў аднак супакоіліся і пачалі ўважліва чытаць.

Ужо вечарэла, калі яны выйшлі на вуліцу. На тратуарах трымкацеў шматлікі людскі натоўп. Зрэдку праязджалі з бледнымі фарамі аўтамашыны.

— Ведаеш, што — урэшце прамовіў Пятро — мне „Ніва" вельмі спадабалася. У ёй пішацца ўсё так ясна, зразумела і жыццёва... але... я ў ёй заўважыў адну характэрную з'яву.

Да яе пішуць людзі пераважна з Беласточчыны, а беларусы ёсць не толькі ў Беласточчыне. Ты толькі падумай: колькі беларусаў жыве і ў Вроцлаве, і ў Зялёнай Гуры, і ў Еленяй Гуры, і ў Шчэціне... У іх-жа таксама ёсць свае турботы, свае радасці і цяжкасці... „Ніва" — гэта газета не толькі для беларусаў Беласточчыны, але наогул для ўсіх беларусаў Польшчы — закончыў Пятро.

* * *

Цягнік набіраў хуткасці. У акне купэ прасоўваліся апошнія чароды мільгаючых агеньчыкаў гарадскога асвятлення. Гвалтоўна грукацелі колы на астатніх пераездах. Цягнік імчаўся ў бяздонне гусцеючага вечаровага змроку. Да вушэй Хведара дабягаў сонны пошум набліжаючагася лесу.

Толькі цяпер ён адчуў усю невыносную стомленасць, хіліла спаць. — Каб як найхутчэй Валбжых — падумаў. — А там ужо не бяда, са станцыі да гасцініцы недалёка...

...Так, так правільна сказаў Пятро... гэтая газета не толькі для беларусаў Беласточчыны але і для беларусаў усяе Польшчы... абавязкова трэба будзе напісаць у „Ніву" — стомлена сонным голасам прамовіў Хведар. Акно пустога купэ ззяла атупляючай цемрай. Аднастайна, усыпляюча грукацелі колы.

С. ЯНОВІЧ

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

 

# Спаборніцтва двух кааператываў

Сёлета на першамайскай дэманстрацыі ў Семятычах асабліва звярталі на сябе ўвагу дзве групы людзей. Члены адной групы гаварылі па-беларуску, а другой па-польску. Асабліва цікавы быў момант спаткання гэтых груп. Мужчыны і жанчыны моцна пацiскалі адзін другому рукі, радасна гутарылі, жартавалі.

Пасля дэманстрацыі гэтыя дзве групы зліліся ў адну і накіраваліся ў Семятыцкі парк. Доўга яны сядзелі на мураве, выпівалі, закусвалі, спявалі.

З боку гледзячы на гэтых людзей, на іх ветлівыя адносіны, можна было падумаць, што тут, у Семятычах на першамайскай дэманстрацыі спаткаліся члены адной вялікай сям'і, якія не часта спатыкаюцца і не маюць магчымасці пагаварыць аб сваім жыцці, аб сваіх клопатах, аб сваіх дасягненнях.

А што гэта за людзі, адкуль яны? Адна група, — гэта кааператыўшчыкі з беларускай вёскі Волька Нурэцкая, а другая — палякі, таксама члены сельскагаспадарчага кааператыва з Таргавіска.

Два гады таму, на павятовым з'ездзе кааператыўшчыкаў, таварышы з Волькі Нурэцкай за найлепшыя ў павеце дасягненні ў развіцці кааператыўнай гаспадаркі ў 1954 годзе, атрымалі пераходны сцяг Прэзідыума павятовай рады нарадовай. На гэтым-жа з'ездзе Вальчане выклікалі на спаборніцтва сельскагаспадарчы кааператыў у Таргавіску (ён знаходзіцца ад Волькі ў адлегласці 70 кілометраў).

Таргавічане прынялі выклік і ўзяліся шчыра за працу. Паклалі яны шмат намаганняў, каб іх кааператыў быў найлепшым у павеце, каб пераняць ад Вальчан пераходны сцяг.

Намаганні Таргавічан не пайшлі дарма. Дзякуючы добраму дагляду пасеваў, іх землі далі больш 20-ці цэнтнераў збожжа з кожнага гектара. Кукуруза, цукровыя буракі таксама добра абрадзілі. Таргавічане выйшлі на першае месца ў павеце і атрымалі пераходны сцяг.



Што пасееш, то пажнеш.

У гэтым годзе спаборніцтва паміж гэтымі двума кааператывамі працягваецца.

Вальчанам — калі з імі мы гаварылі — было вельмі нялёмка прызнацца, што ў мінулым годзе яны горш працавалі ад Таргавічан, і што яны не ўтрымалі пераходнага сцяга, і што пераможцамі спаборніцтва з'яўляюцца Таргавічане. Аднак страта сцяга не аслабіла іх працоўных подзвігаў, а наадварот, змабілізавала да плённейшай працы.

У гэтым годзе — гавораць Вальчане — мы будзем так працаваць, каб выграць спаборніцтва, каб асягнуць найлепшыя вынікі ў павеце ў развіцці кааператыўнай гаспадаркі.

Вальчане спаборнічаюць у гэтым годзе з Таргавічанамі за павелічэнне ўраджаю з гектара. Сельскагаспадарчы кааператыў у Вольцы, павінен атрымаць у сярэднім 18 цэнтнераў збожжа з аднаго гектара. Вальчане абавязаліся таксама загаспадараваць 6 гектараў сенажаці, і атрымаць не менш 40 цэнтнераў сена з кожнага гектара. Пастанавілі яны ў 1956 годзе падрыхтаваць на зіму 202 тоны сіласу, значна павялічыць жывёлагадоўлю.

Сельскагаспадарчыя кааператывы ў Вольцы Нурэцкай і Таргавіску з'яўляюцца найлепшымі кааператывамі ў Семятыцкім павеце. Спаборніцтва і шчырыя сяброўскія сувязі дапамагаюць ім узаемна ліквідаваць недахопы ў сваёй працы.

Важна таксама адзначыць, што час ад часу прыязджаюць на сходы адзін да другога старшыні кааператываў.

У пачатку гэтага года старшыня кааператыва ў Вольцы, Максім Рудчык быў у Таргавіску, а старшыня кааператыва тав. Касінскі і палявы брыгадзір тав. Стычынскі з Таргавіска былі ў гасцях у Вольцы Нурэцкай. Як адзін, так і другі старшыня дзяліліся сваім вопытам, дамагаліся ўзаемна выкрываць недахопы ў працы кааператываў.

Так будуюць новае жыццё ў вёсцы беларусы з Волькі Нурэцкай і палякі з Таргавіска.

МІХАСЬ ХМЯЛЕЎСКІ

НАВІНЫ НАВУКІ І ТЭХНІКІ

## Звышмагутныя турбіны

Аэрадынамічная лабараторыя Ленінградскага політэхнічнага інстытута імя Калініна выпрабоўвае мадэль буйнейшай у свеце гідратурбіны для Брацкай ГЭС. Ужо створана некалькі эскізных праектаў гэтай звышмагутнай турбіны.

Магутнасць кожнага гідраагрэгата Брацкай ГЭС будзе каля 200—250 тысяч кіловат. У свеце няма такіх машын. Устаноўленыя ў Злучаных Штатах Амерыкі на гідраэлектрастанцыі Грэнд-Кулі турбіны не перавышаюць па магутнасці ста дзесяці тысяч кіловат.

Высокі напор вады, які ўтворыць бурная Ангара, даў магчымасць праекціроўшчыкам распрацаваць радыяльна - восевы тып турбіны. Паток вады, расцякаючыся па радыусу кола, прымусіць яго вярцецца з велізарнай сілай.

Кожная дэталь гэтай унікальнай машыны выклікае здзіўленне. Па вышыні гідраагрэгат набліжаецца да сяміпавярховага дома. Рабочае кола турбіны важыць 180 тон, а вал — 100 тон.

У сусветнай практыцы выраб такіх буйных валаў невядомы. Алкаваць іх, як звычайныя валы, немагчыма, таму будзе ўжыт новы метад: вал вырашана зварыць з ліставога жалеза ў 200 міліметраў.

## Маленькі ўцюг

Самы маленькі электрычны ўцюг, прызначаны для прасавання лёгкіх тканін і іншых рэчаў, стварыў Харкаўскі электра-механічны завод. Даўжыня яго 107 міліметраў, шырыня — 62, а вышыня — 70 міліметраў, вага 500 грамаў. Такі маленькі ўцюг можна браць з сабой у дарогу. Працуе ён ад пераменнага і пастаяннага току 127 і 220 вольт. Пасля ўключэння ў сетку ўцюг награецца за 10 — 12 мінут да тэмпературы 200 градусаў.

Уцюг камплектуецца нездымальным злучальным шнурам са штэпсельнай вілкай і падстаўкай. У яго пластмасавая ручка, нікеляваная аснова і аксіднае пакрыццё крышкі з яркай афарбоўкай.

## МЕХАНІЗАЦЫЯ
### сельскай гаспадаркі у пяцігодцы

Планаваны, так вялікі, рост сельскагаспадарчай вытворчасці ў пяцігодцы не можа адбыцца без паступовай усё шырэйшай механізацыі сельскагаспадарчых прац.

Таму нашыя прадпрыемствы ў тры разы павялічаць прадукцыю сельскагаспадарчых машын і прыладаў, пры адначасовай прынцыповай паправе іх якасці.

Прадпрыемствы таксама распачнуць прадукцыю, зусім новых тыпаў, сельскагаспадарчых машын, якія будуць абслугоўваць нашыя сельскагаспадарчыя кааператывы і ПГР-ы.

У перыяд пяцігодкі значна ўзрасце прадукцыя трактараў, якія ўсё больш становяцца асноўнымі машынамі ў апрацоўцы зямлі. У канцы пяцігодкі будзе іх працаваць на палях нашай краіны 112 тысяч штук.

Таксама ўзрасце прадукцыя камбайнаў. У канцы пяцігодкі будзе іх 14 тысяч штук. Сумесна з павелічэннем прадукцыі сельскагаспадарчых машын, сельская гаспадарка ўсё больш будзе атрымліваць электрычнага току. У 1960 годзе большая частка вёсак будзе электрыфікавана.







*Аб'яўлены рэдакцыяй нашага штотыднёвіка, Галоўным Праўленнем БГ-КТ і ЗВ ТПП-Р Вялікі літаратурна - фільмавы конкурс, карыстаецца вялікім зацікаўленнем не толькі беларускай але і польскай грамадскасці.*

*Рэдакцыя штодзённа атрымлівае каля 50 лістаў з развязкамі.*

*На здымку: Вітрына з галоўнымі ўзнагародамі, якія 10 чэрвеня г. г. урачыста будуць уручаны шчасліўцам.* фото — Р. Сэскевіч

# ВЯСКОВЫЯ ЛАЗНІ

Аб неабходнасці штодзённа мыцца мо' і не трэба было-б пісаць, калі-б жыццёвы вопыт не ўказваў на тое, што нашае насельніцтва не вельмі так ужо часта ўжывае — ваду, мыла і міску.

Тым часам у нашых хатах рэдка дзе ёсць асобны куток для гэтай надзённай, для ўсіх даступнай, працэдуры. Людзі ўвесь тыдзень ходзяць нямытымі, бо ці-ж мыццё рук вадой пусканай з рота можна назваць мыццём.

Пасля працы, у пылу, у брудзе пры гною ці ўладкоўванню інвентара, ці не трэба хоць раз у тыдзень памыцца? Але каб памыцца, трэба мець дзе. Нейк загінулі ў нашых вёсках здаўня існуючыя амаль у кожным двары украінскія лазні. Старыя, яшчэ памятаюць гэтыя неабходныя пабудовы.

Цяпер многія людзі дбаюць толькі аб павярхоўны выгляд, асабліва некаторыя дзяўчаты. Панчошкі, на высокіх абцасах пантофлі, але ногі могуць быць бруднымі. Неаднаразова рознымі блузкамі прыкрываецца брудную кашулю і брудны станік. Менавіта такія дзяўчаты, а потым ужо дарослыя жанчыны не дбаюць аб чысціню свайго цела, кажучы, што няма дзе ў хаце схавацца, каб дакладна памыцца.

Трэба аднак прызнаць, што гэта з'яўляецца адной з галоўнейшых прычын недахопу ахайнасці нашага вясковага насельніцтва. Трэба вярнуцца да даўніх традыцыйных паравых лазняў. Без асаблівых-жа




*На рысунку: Прыкладны план вясковай лазні.*

цяжкасцей можна іх пабудаваць у кожнай вёсцы.

Трэба на вясковых і грамадскіх сходах абмяркоўваць гэтыя справы, а калі знойдзецца большасць так думаючых, высунуць пастанову аб пабудове лазні і выканаць яе грамадскімі працоўнымі абавязацельствамі. Калі будуем дарогі, капаем равы, рамантуем хаты-чытальні, то чаму-б нам не зрабіць у сваёй вёсцы лазню? Не так ужо вельмі многа каштуе, каб сяляне не маглі гэтага ажыццявіць.

Менш выдаць на гарэлку, на непатрэбныя фінціклюшкі, а напэўна знойдзецца сродкі на пабудову лазні. Матэрыял заўжды можна знайсці на месцы або непадалёку — камяні, гліна гравій, якая-небудзь



*На рысунку: нескладнае прыстасаванне палівачкі ў якасці душы*

цэгла пасля разборкі, некалькі вуглакоў на крoквы... Трэба каб моладзь, асабліва з грамадскіх арганізацый, сельгаскааператываў, з ГОМ-аў, зацікавілася гэтай справай.

Цяпер людзі штораз больш цікавяцца працай і бытавымі ўмовамі ў вёсцы.

Справа ва ўздыме культуры, а ці-ж можна лічыць культурным чалавека бруднага, вашывага, ад якога заносіць потам.

Трэба ведаць, што гігіена — навука аб ахове здароўя, з'яўляецца сімвалам культуры чалавека. Апроч гэтага, практычная неабходнасць утрымаць сваё цела ў чысціні — гэта ў вялікай ступені гарантыя перад захварэннямі на заразлівыя хваробы.

Падумайма аб стварэнні добрых умоў для чысціні цела. Трэба пачаць будаваць паравыя украінскія лазні.

Пастанова ўрада адносна падтрымкі грамадскіх працоўных абавязацельстваў, будзе дапамогай, аб гэтым ведаюць Прэзідыумы нашых Радаў.

Др. ШАЫКОЎСКІ
Беласток

Ад рэдакцыі:

Усім тым, якія зацікаўвяцца справай пабудовы лазні, рэдакцыя ахвотна дапаможа ў атрыманні дакументацыі і дакладных інфармацый адносна пабудовы.



 

 

*Аляксей Карпюк*

# Гісторыя з гнёздамі

## (апавяданне)

Дарагія Чытачы! Прадстаўляем Вам маладога беларускага пісьменніка, нашага земляка, Аляксея Карпюка. Нарадзіўся ён ў 1920 годзе ў вёсцы Страшава.

Там і хадзіў у пачатковую школу. У 1934 годзе за спробу ўцячы ў СССР быў пакараны панскім судом у Клецку на тры месяцы турэмнага зняволення.

У 1936 годзе прыцягваўся да адказнасці за прыналежнасць да КСМЗБ. У 1938—39 г. г. вучыўся ў Вільні ў сярэдняй школе, з 1939 на 41 г. г. у Навагрудскім педвучылішчы. У вайну прымаў удзел у барацьбе супроць немцаў, сядзеў у лагеры смерці Штуттгоф, адкуль уцёк.

Апошні час быў камандзірам партызанскага атрада імя Кастуся Каліноўскага, які арганізаваўся з мясцовай моладзі і дзейнічаў у раёне Страшава, у трохкутніку: Заблудаў, Крынкі, Свіслач. Потым быў на фронце.

У 1949 годзе Аляксей Карпюк закончыў Гродзенскі педагагічны інстытут. Зараз працуе ў „Гродзенскай праўдзе".

У 1953 г. пасля надрукавання сваёй першай аповесці „У адным інстытуце", Аляксей Карпюк быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Савецкай Беларусі.



*Аляксей Карпюк*

Я нарадзіўся на ўскраі Белавежы. Эх, і выносны ў нас лес! Сам з бацькам спускаў ёлку сорак пяць метраў вышыні! Бацька меў зямлі не так і мала. Але на фронце прайшоў добрую школу, а ў семнаццатым нават бачыў і чуў Леніна. Рэвалюцыйны дух бацька трымаў праз увесь час польскай улады, быў арганізатарам забастоўкі лесарубаў і за гэта сядзеў у турме. Я яго за гэта паважаў. Мая маці не спачувала імкненням бацькі і жыла адной гаспадаркай. Аднак я яе любіў і такой.

Па суседску з намі стаяла старэнькая хата Цярэна. Цярэн са сваёй жонкай Настусяй жылі толькі з лесу і рэдка бывалі дома: зімой вазілі лес, вясной лес садзілі, летам і восенню абраблялі зямлю лесніку. Калі яны выязджалі ў пушчу, у іх дома заставаліся малыя дзеці са старэйшай дачкой Маняй. Маня была дзяўчынкай з вялікімі чорнымі вачаняткамі, з доўгім носікам, з двума каштанавымі коскамі. У коскі былі ўплецены шматачкі.

У нашай вёсцы жыў адзін балаховец, які асеў ад вайны. Балаховец меў сына — майго аднагодка Пецьку. Сын быў рыжы, і яго яшчэ малым празвалі Рыжы Пятрук.

Рыжы Пятрук задзіраўся з Цярэнавымі дзяўчатамі. Мой бацька хваліў Цярэна за тое, што ён у час забастоўкі лесарубаў быццам незнарокам падмяў канём паліцыянта. Таму я ахвотна ад Пятрука бараніў Цярэнавых дзяўчат. Не раз, калі Пятрук паб'е Маню, я яму за гэта так дам, што ён увесь у сіняках бяжыць да бацькі скардзіцца.

Потым заўсёды пры набліжэнні небяспекі Маня бегла да мяне. Яна так прызвычаілася, што калі мы сталі пасвіць кароў, ніколі не гнала ў лес без мяне. Бывала, мае каровы маглі не пад'есці, затое штодзень яе ішлі дамоў тоўстымі, ледзь перастаўлялі ногі. Восенню пад вечар, ідучы дахаты, на мне не было сухой ніткі, а Маня са мной гнала сухенькай, быццам і не ішоў цэлы дзень дождж.

Мы раслі, і мне ўсё больш і больш хацелася зрабіць нешта прыемнае Мані.

Аднойчы з бязменам іду ад суседа. Сустракаю Маню. Яна плача наўзрыд.

— Чаго плачаш — пытаю.

— Мама з татам паехалі ў лес і торбачку з полуднем забылі дома!

— Вазьмі ды занясі ім! — кажу я.

— Баюся заблудзіцца ў пушчы. І каля дзяцей няма каго пакінуць у хаце!

Я ўцёк з хаты і занёс Цярэну ў пушчу торбачку.

Яшчэ з ранняй вясны я вартаваў палянкі ў лесе, дзе, ведаў, будуць добрыя чырвоныя ягады. Калі хлопцы наравілі туды гнаць кароў, я ім расказваў пра воўчыя норы, пра верацяніц, якіх быццам там шмат. Каля палянкі, на галінках нізкіх ёлачак, я знарок клаў забітых вужоў, каб адпужаць пастухоў. А калі ягады паспявалі, на паляну, куды толькі каза забягала пагрызці маладых дубцоў, ці прыводзіла сваё казлянё пабрыкацца на сонцы, я прыходзіў з Маняй і сур'ёзна казаў:

— Глядзі!

Сам садзіўся ў ягаднік, кідаў сабе па адной, што ні зелянейшай, ягадзіне ў рот і моўчкі назіраў за ёю. Маня, радасна войкаючы, збірала ягады ў збанок.

Другім разам нарву цэлае бярэма зуброўкі ці дзікага маку. Або ў багне збяру шапку свежых качыных яек. І ўсё гэта для яе.

Зімой, бывала, вырвуся з хаты ў лес быццам за бярозавымі будцамі на венікі. Уцячэ з хаты і Маня. Мы з галінак страхаем белыя пласты. Разграбаем снег і ўглядаемся, як пад ім папрытойваліся зялёныя былінкі, ягадкі на ягадніку. Ад пякучага марозу зноў усё панакрываем пухкім снегам і бяжым на рэчку, паляжам на лёд і ўглядаемся, як цячэ вада. Папрабіваем дзіркі і пускаем пад лёд пузыры.

Я вучыўся ў школе, чытаў кніжкі, расказваў Мані аб тым, што прачытаў. Пад уплывам маіх расказаў аднойчы Маня запрапанавала сабраць калекцыю гнёздаў. Дома не было дзе трымаць іх, мы выбралі месца ў лесе пад густымі ёлачкамі. Я туды назносіў гнёздаў сорак, ад усіх птушак, якія ў нас вадзіліся. Неставала нам толькі аднаго ястрабінага.

Якраз у Настусі, ястраб украў куранё. Мы вырашылі знайсці драпежніка. Я з Маняй доўга хадзіў па пушчы. Аж на высмале, пад адной сасной, мы знайшлі шмат птушынага пер'я, косці. Я па суседняй елцы ўзабраўся да сукоў сасны, палез па яловым галлі на сасну і — да гнязда. Тры каршуны, як добрыя куры, з жоўтымі кіпцюрамі, не надта здзівіліся, калі ўгледзелі мяне, а дружна паказалі жоўтыя ірты. Калі-б я, скінуўшы іх, пачаў злазіць усё было-б добра. Але я стаў яшчэ здзіраць гняздо. Потым захапіўся навакольным малюнкам: пада мной толькі густая зеляніна, а ўверсе яркае сонца і хмары. Мне здалося, што насустрач ім я лячу з верхавінкамі сосен, елак. А сапраўды гэта вецер гнаў хмары. І было шкада, што са мной няма Мані і яна не можа гэтага бачыць. Яе ледзь чутны голас даходзіў знізу, бы з другога свету.

Калі я, злазячы, перабіраўся з сасны на елку, прыляцеў стары ястраб. Ён пачаў лапатаць крыллямі. Мне здалося, што ён кінуўся на мяне. Над вухам нешта сіпла зашыпела, я спужаўся і паляцеў уніз. Бухнуўся на мох, каля птушанят. Адразу спацеў. У мяне пайшла кроў ротам. Не мог устаць, зламаў нагу.

Позна ноччу на тым самым месцы нас знайшлі бацькі. Мая галава ляжала на гняздзе. Маня галінкай арэшніка адганяла ад мяне камароў. Нас тут-жа бацькі пабілі, хоць мы і так плакалі. І толькі тады маці звярнула ўвагу на мае адносіны да Цярэнавай дачкі.

Нага ў мяне дрэнна зраслася, я стаў кульгавым.

Калі я вярнуўся з бальніцы, была ўжо восень. Якраз Настуся з дачкой капала ў нас бульбу. Маня наблізілася да мяне, але мая маці груба яе прагнала. Потым маці падышла да Настусі і заявіла, што ніколі не дазволіць, каб я нават пазіраў на такую бядоту, як Манька. Настуся нешта вострае адказала маці, высыпала на раллю са свайго кошыка бульбу, узяла матыку, за руку дачку і пайшла з нашага поля. А Цярэн з маім бацькам якраз у гэты час сядзелі на мяжы і на сварку жанчын нават вокам не павялі. Яны мірна размаўлялі, курылі, паплёвывалі — хіба добра мужчынам увязвацца ў бабскія справы?

У тую восень, прадаўшы сёе-тое, бацькі паслалі мяне ў Вільню ў гімназію. Бачыць Маню мне давялося рэдка.

Тым часам Маня расла прыгожай дзяўчынай. Яна мела каштанавыя косы, жывыя чорныя вочы, яркія, як маліна вусны. Лоб, вусны, нос і твар у яе быў такой дзіўнай прапорцыі і свежасці, што, гледзячы на яе, усе захапляліся. Мне сказалі, што да Мані заляцаецца Рыжы Пятрук. Я яе аднаго разу падпільнаваў і сказаў, каб у нашых гнёздах шукала пісьмо. Я напісаў цэлы сшытак і паклаў. Назаўтра сшытка не стала. Я клаў яшчэ і яшчэ. Яна кожны раз адтуль забірала.

І вось аднойчы я даведваюся ад вясковых хлопцаў, што Рыжы Пятрук паказвае людзям нейкае маё пісьмо. Я доўга не знаходзіў сабе месца, больш не хадзіў да гнёздаў і нават не глядзеў у бок Цярэнавай хаты. Даведалася пра пісьмо мая маці і пайшла сварыцца. Настуся з-за бэлькі дастала жмут маіх пісем і кінула маці ў твар, кажучы:

— На, давіся імі і ідзі ты са сваім сынам к чорту!

Мая маці іх усе сабрала і папаліла.

Калі я потым сустракаўся з Маняй, рабіў выгляд, што не бачу яе.

Бацька распрадаўся зусім, а ўтрымаць мяне ў гімназіі не здолеў. Я перайшоў на вячэрнія курсы. Вечарамі вучыўся, а днём зарабляў у горадзе: насіў ваду па кліентах, у якіх не было водаправода.

Пад канец першага года вучобы на гэтых курсах са мной здарыўся выпадак, пасля якога канчаткова вырашыўся лёс маёй вучобы. Мне мама прыслала вышытую кашулю, якую я насіў у сябе на вёсцы. Я адразу яе надзеў і пайшоў у школу. На лекцыі геаграфіі прафесар, раптам заўважыўшы маю кашулю, грэбліва сказаў:

— У Афрыцы ёсць народы, якія любяць розныя бразгулькі, каляровыя шматачкі, шкельцы. Дай ім мыла, яны з'ядуць яго, бы прысмак. І ў нас тут на „Крэсах" нешта падобнае захавалася. Некаторыя сяляне па-дзікуску рознакаляровымі ніткамі вышываюць сабе адзенне. Вось вам прыклад — паказаў „прафесар" на мяне.

З мяне пачалі смяяцца. Я не стрываў, стаў настырацца, а потым выйшаў з класа. За грубасць назаўтра мяне выгналі з курсаў.

Ну, выгналі, дык выгналі. Тады так здаралася з многімі, і ў народзе гэта не лічылася заганным. Прыехаўшы да дому, памятаю, на заўтра я рана ўстаў, доўга хадзіў па полі, аглядаў бацькаў ячмень, авёс і думаў, што мне зараз рабіць. Хіба толькі турмы чакаць! — вырашыў я і накіраваўся ў захутаны ранішнім туманам лес, адкуль даносілася зязюльчынае кукаванне і птушыны шчэбет. Увайшоў між сосен. Гляджу — дзяўчаты з лесніком расчышчаюць дзялянку. Сярод іх — Маня. У мяне з'явілася ранейшая злосць і жаданне помсты. Адначасна Маня мяне прыцягвала. Я сеў каля дзяўчат на пень. Яны свабодна пачалі са мной жартаваць, а Маня, збянтэжаная, трымалася зводдаль. Потым нясмела падышла, працягнула на далоні дзве першыя ў гэтым годзе яшчэ чырвонабокія ягадзінкі і ціха прамовіла:

— На... з'еш...

Я ягад не ўзяў. Адчуваючы прыемнасць ад таго, што помсціў сваю ганьбу, я ўстаў з пня і пайшоў.

...У турму я трапіць не паспеў, бо хутка пачалася вайна Польшчы з Германіяй у 1939 годзе.

Пасля вызвалення Заходняй Беларусі я вучыўся ў тэхнікуме і ў саракавым годзе прыехаў на лета дадому.

Аднойчы кручу калаўрод, спускаю вядро, каб зачарпнуць вады. Раптам рыпнула калітка. Забрахаў наш Бобік. Гляджу... да мяне ідзе Маня. Смуглявая, як цыганка. Калі зірнула на мяне сваімі вачыма, я забыўся, вядро ў студні бразнула аб банку з малаком. Я сеў на цэментавую балейку.

— Добры дзень, Міша! — сказала яна ціха, душэўна і падышла так блізка, што мяне абдало цеплынёй яе твару.

— Дзень добры! — ледзь чутна адказаў я.

Маня была байчэйшай за мяне. Бачачы, што я збянтэжыўся зусім, яна глянула ў студню, пацягнула за ланцуг ад упушчанай банкі з малаком і запытала шчыра зацікаўленая:

— Доўга так будзе банка ў студні?

Банку з малаком мая мама пачала апускаць у студню нядаўна, і гэта было яшчэ навінай для суседзяў.

— Гм... Пакуль не вымем, — адказаў я не надта ветліва. Да мяне вярталася роўнавага, а разам з гэтым, як тады ў лесе на дзялянцы, памяць аб зганьбаваных маіх пісьмах.

У хляве на розныя галасы завішчалі свінні, адтуль-жа данёсся голас маёй маці:

— Ксюля, а каб на вас трасца, не дачакаецеся!

У Мані прайшоў нейкі цень па твары, вочы напоўніліся слязьмі. Яна сціснула вусны, нерашуча адвярнулася і пайшла, быццам спутаная, да каліткі. Я распачліва паглядзеў ёй у след. І як я тады яе не паклікаў і не вярнуў, я не магу зразумець да сённяшняга дня!

Пасля гэтай сустрэчы ўжо яна рабіла выгляд, што не заўважае мяне.

У другое лета мне не давялося пабываць дома. Замест канікул я з хлапцамі пайшоў ваяваць.

Ужо была другая зіма, калі мы з групай хлапцоў прыйшлі з мінскіх лясоў у Белавежскую пушчу. Я набліжаўся да родных мясцін. Праходзячы каля ельніка, дзе калісьці была калекцыя гнёздаў, заглянуў туды. Гнёзды ўжо зараслі, іх прысыпала ігліцай, прыцярушыла снегам. Галіны елак, якія калісьці над гэтым месцам рабілі страху так нізка, што мне, каб падлезці пад іх, трэба было нагінацца, цяпер падраслі. Іх галлё недзе гублялася ўгары. Каб глянуць на яго, трэба было задзіраць галаву.

Я пырнуў аўтамата змёрзшае гняздо, якое трапілася мне. У сярэдзіне заўважыў нейкую паперку. На паперцы — сляды даўняшняга пісьма. Нічога нельга было разабраць, хаця крывыя літары

Працяг на стар. 7



 

